


# DISTRICTUS

# ПАВЕТ



**ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ**

№ 7 (32) ЛІПЕНЬ 2004 г.



Што такое археалогія ведаюць бадай што ўсе. А вось паняцце "эксперыментальная археалогія", ці "жывая археалогія" для большасці непасвечаных патрабуе тлумачэнняў. За мяжой "жывая археалогія" перажывае перыяд імклівага развіцця. Зарадзіўся гэты кірунак і ў нас у Беларусі. Якое дачыненне да гэтага мае Браслаў, якія кірункі даўніх заняткаў "ажыўлены" мясцовымі аматарамі эксперыментальнай археалогіі – аб гэтым чытайце на другой і трэцяй старонках нумара.

На першай жа вы бачыце абрад здабывання "жывога агню", які адноўлены ў Браславе. Верылі, што агонь, здабыты такім чынам валодаў магічнымі якасцямі. Убачыць гэта прыгожае відовішча можна толькі ў выкананні ўмельцаў з Браслава.

Эксперыментальная археалогія, якую яшчэ даволі трапна называюць "жывой", уяўляе сабой кірунак, калі ажыццяўляецца аднаўленне даўніх заняткаў, тэхналогій далёкіх продкаў на падставе знойдзеных пры даследваннях прадметаў, а таксама сведчанняў пісьмовых крыніц. Удзельнікамі эксперыментаў, іх арганізатарамі могуць стаць не толькі спецыялісты. Паразважаем. Кожны можа знайсці каменную сякеру. Гэтую прыладу працы ўжывалі паўсюдна тысячы гадоў. Глядзіш на кавалак каменя і ўзнікаюць сумненні - хіба такім дрэва паваліш, ці апрацуеш? Паспрабуйце насадзіць сякерку на дрэўка, паспрабуйце выконваць розныя аперацыі. Вось ужо прымітыўны эксперымент. А калі ўзнікне жаданне ўскладніць, калі ласка – паспрабуйце зрабіць сякеру, перад тым падабраўшы адпаведнай якасці камень, потым прасвідраваць адтуліну.



Многія супрацоўнікі музейнага аб'яднання ўдзельнічалі ў археалагічных раскопках, дапамагалі склейваць аскепкі керамічнага посуду, разам ламалі галаву над тым, для чаго служыла тая ці іншая загадкавая знаходка. Да заняткаў "жывой археалогіяй" заставаўся толькі маленькі штуршок. Першым новай справай "захварэў" ганчар Музея традыцыйнай культуры Валеры Зінкевіч, а далей кола аднадумцаў пашыралася і, дарэчы, працягвае пашырацца.

Арганізацыя адмысловых археалагічных летнікаў, і заняткаў для дзяцей, удзел у археалагічных фестывалях і святах сярэднявечнай культуры: Навагрудак, Нясвіж, Заслаўе (Беларусь), Кернава (Літва), Цэсіс (Латвія), Волін, Біскупін, Ілжа (Польшча), а колькі нерэалізаваных запрашэнняў! З'явіўся і свой браслаўскі гурт аматараў эксперыментальнай археалогіі.

**Валеры Зінкевіч**, ганчар вядомы ў Беларусі, лаўрэат і дыпламант многіх конкурсаў. Працуе над аднаўленнем тэхналогіі вырабу ганчарнага посуду розных археалагічных культур. Яго дзейнасць у гэтым кірунку высока ацэньваецца калегамі і спецыялістамі. Адзін з нямногіх у Беларусі валодае тэхналогіяй вырабу гуслей.





**Аляксандр Курбан**, разьбяр высокай кваліфікацыі. Займаецца аднаўленнем традыцыйных народных і археалагічных драўляных вырабаў. У адным з летнікаў кіраваў працай па вырабу чаўна. Аднавіў ручны станок для вырабу верацёнаў.



**Эла Зінкевіч**, вывучае кухню продкаў. Асвоіла тэхналогію выпечкі на вогнішчы праснакоў – ляпешак з мукі, замешанай на вадзе. У ганчарным посудзе на вогнішчы рыхтуе розныя кашы, супы, гарбату з зёлак. Разам з ёй працуюць дочкі – Ганка і Насця.



**Ірына Шыдлоўская**, авалодала сакрэтам прадзення на верацяне з праселкамі. Праселкі – грузікі на верацёны, прадмет, які вельмі часта трапляецца на археалагічных помніках.

Дачка Янка захапілася вырабам паясоў на дошчачках.



**Людміла Пупіна**, вырабляе разнастайны посуд з бяросты. У апошнія часы асвоіла тэхналогію пляцення з дапамогай іголкі з косці.

# ВЕСТКІ

Браслаўскае музейнае аб'яднанне наведала дэлегацыя Гданьскага этнаграфічнага музея. У лістападзе ў гэтым музеі плануецца адкрыццё выставы, прысвечанай Браслаўшчыне 20-30-х гадоў. Асноўную частку экспазіцыі выставы складуць матэрыялы, сабраныя сярод выхадцаў з Браслаўшчыны, якія пераехалі жыць у Польшчу. У выставе прыме ўдзел і музейнае аб'яднанне, якое валодае значнай калекцыяй фотаздымкаў і дакументаў даваеннага перыяду.

Госці з Гданьска азнаёміліся з музейнымі матэрыяламі і зрабілі адбор найбольш цікавых для выставы. Аўтарка выставы – Вікторыя Бляхарская – загадчыца музея, родам з Браслаўшчыны, да гэтага яна ўжо рабіла выставы, прысвечаныя розным рэгіёнам Беларусі і Украіны.



У ліпені праводзіліся раскопкі на гарадзішчы Маскавічы і гарадзішчы Рацюнкі, размешчанымі у наваколлі Браслава. Маскавічы - магутная памежная крэпасць Полацкай зямлі ў XI-XIII стст., квітнеючае гандлёвае і рамеснае паселішча. На ім праводзіла даследванні экспедыцыя Інстытута гісторыі НАН Беларусі пад кіраўніцтвам супрацоўніка Сяргея Дзярновіча. На гэты раз знойдзены матэрыялы, звязаныя са славянскім насельніцтвам паселішча – пераважна прадметы побыту XI-XIII стст. Вылучаецца прыгожы крыж-элкалпіён (рэлікварый). Таксама ў раскопках удзельнічалі мінскія школьнікі. У вольны час сіламі сяброў клуба аматараў эксперыментальнай археалогіі з Браслава было наладжана навучанне дзяцей даўнім рамёствам і заняткам. Заняткі па ляпной кераміцы, разьбярству, пляценню праводзіліся ў палявых умовах.

Археолагі Белдзяржуўніверсітэта ў гэтым годзе працягвалі даследванні гарадзішча Рацюнкі. У мінулым годзе на пляцоўцы гарадзішча было знойдзена пахаванне некалькіх чалавек, якому звыш тысячы гадоў – з'ява ўнікальная для Беларусі.

Падчас будаўніцтва сялібы на беразе возера Струста выпадкова выяўлена селішча перыяду I тыс.нашай эры. Археолагі правялі папярэдняе абследванне помніка.

У Браславе выпадкова знойдзены цікавейшы экспанат – "змеявік" XII-XIII стст. – медальён з выявай вершніка, які дзідай забівае дракона. Такія медальёны спецыялісты звязваюць і з хрысціянствам, і з больш раннімі паганскімі вераваннямі. Больш дакладнае вывучэнне знаходкі правядуць археолагі.



**Кастусь Шыдлоўскі**, займаецца дэманстрацыяй даўніх спосабаў пісьма на таблічках, пакрытых воскам і бяросце, а таксама вырабам прылад пісьменства.

Гэтым жа кірункам захапіўся і Альгерд Селях.

У Браславе пасля заканчэння Віцебскага педуніверсітэта настаўнікам гісторыі стаў працаваць **Сяргей Бабенка**. Пад час вучобы ў Віцебску ён актыўна ўдзельнічаў у працы вікінгаўскага клуба. Не збіраецца кідаць свайго захаплення і ў Браславе. У яго планах – аб'яднаць аматараў вікінгаўскай культуры ў гурток ці клуб.



Кола браслаўскіх аматараў эксперыментальнай археалогіі шырэйшае. Да яго таксама належаць Алена і Алесь Селяхі, Уладзімір Скрабоўскі, Антаніна Кавалык, Таццяна Цімошкіна, Саша Пупіна, Надзейка Шыдлоўская, Святлана, Ангеліна і Галіна Курбаны.

Можа быць у Браславе з часам будуць праходзіць і свае фестывалі эксперыментальнай археалогіі.



*Экспедыцыі, пошукі, знаходкі*

# БРАСЛАЎСКІЯ НАЗВЫ

У Браславе налічваецца больш за 130 вуліц і завулкаў. На жаль да гэтай пары значная іх частка звязана з ідэалогіяй былой савецкай дзяржавы і ніяк не звязана з гісторыяй і традыцыямі нашага краю. Камсамольская, Рабочая, Ленінская, Савецкая, Энгельса, Кірава, Піянерская і г.д. і г.д. Сярод назваў такога тыпу губляюцца назвы гістарычныя. Што праўда, для Браслава гістарычныя назвы абмяжоўваюцца толькі XX стагоддзем. З больш ранніх часоў можна лакалізаваць толькі вуліцу Вялікую, сучасную Ленінскую. У пісьмовых крыніцах яна згадваецца з 1554 г. Да XX ст. Браслаў быў маленькім гарадком і не меў назваў сеткі вуліц і завулкаў. Горад імкліва развіваўся ў 20-30-я гады і тады ўжо існавала больш за 30 вуліц і завулкаў. Толькі нямногія з іх атрымалі назвы звязаныя з ідэалогіяй польскай дзяржавы. Вялікая вуліца стала вуліцай Пілсудскага. Былі ўвекавечаны некаторыя дзеячы Польшчы – Л.Жэлігоўскі, Т.Галуўка і свята канстытуцыі – 3 Мая. Рэшта назваў насіла нейтральны характар.

З прыходам савецкай улады назвы мінулага рэжыму былі заменены. Раённая газета “Звязда” у №28 ад 8 снежня 1939 г. паведаміла пра рашэнне часовага ўпраўлення Браслаўскага павета аб перайменаванні вуліц г.Браслава. Рашэнне абавязвала ўстановы і грамадзян цягам 10 дзён змяніць старыя назвы, напісаць новыя на беларускай мове. Друкаваўся спіс вуліц са старымі і новымі назвамі. Падаем яго цалкам.

вул. Галуўкі – Энгельса;
вул. Жэлігоўскага – К.Маркса;
вул. Цментарная – 1-я Мая;
вул. Вавжэцкага – Р.Люксембург;
вул.Старосцінская – К.Лібкнехта;
вул. Гурная – Горная;
вул. Іказнеская – Камсамольская;
вул.Пілсудскага – Ленінская;
вул. 3-га Мая – Савецкая;
вул.Легіонова – Чырвонаармейская;
вул. Перацкага – Дзяржынскага;
вул. Навято – Піянерская;
вул. Жураўліна – Пушкіна;
вул. Падгурная – Падгорную;
вул. Нарбутоўская – Кірава;
вул. Воўчая – Рабочая;
вул. Пясчыстая – 8 Сакавіка;
вул. Летняя – Дачная;
завулкі Гмінны – Газетны;
Пясчысты - Чырвоны

** Правапіс дакумента захаваны*



**Вуліца Савецкая напрыканцы 1960-х гадоў.**
***З фотальбома З.Пазьняка «Браслаўшчына»***

Плошча пад традыцыйнай назвай Рынак атрымала назву 17 верасня. Не былі заменены назвы вуліц: Замкавай, Чыгуначнай, Спартыўнай, Сасновай, Лазовай, Азёрнай, Дрывяцкай і завулка Замкавага.

## З гарадской тапаніміі:

***Пікстал*** – так у 50-60-я гады называлі самы высокі пагорак у раёне рыбгаса. Яго расшыфроўка – Пік Сталіна. Імем тагачаснага правадыра ўшаноўвалі самыя высокія горныя вяршыні СССР. Браслаўская назва насіла жартаўлівы характар. У гады жыцця тырана гэтую азву вымаўлялі з аглядкай, асцярожна, у коле сваіх, бо за кпіну з правадыра можна было паплаціцца.

***Юдаўка*** – усе ведаюць назву паўночнай часткі Браслава, дзе з 60-х гадоў фарміруецца раён шматпавярховай забудовы. Да вайны Юдаўскай называлася вуліца Горная, дзе жыло шмат яўрэяў. У гады акупацыі там знаходзілася гета. Як старая назва пераехала на "новае месца" наўрад удасца высветліць.

***Лысая гара*** – самы высокі пагорак у заходняй частцы Браслава, за агароджай бальнічнага комплекса. Да XX ст. дрэвы на гэтым пагорку не раслі, а летняй парой выгарала нават трава. На схіле гары ў канцы 30-х гадоў была зроблена стартавая пляцоўка планераў.

*Славутыя землякі*

# Дзмітрый Васілеўскі

*У Браславе ёсць вуліца братоў Васілеўскіх, названая ў гонар заснавальнікаў і кіраўнікоў гарадскога падполля ў гады вайны. Узначальваў гэтую працу Аляксей Васілеўскі, юрыст па адукацыі, выпускнік Пражскага ўніверсітэта, сын святара. Пра яго існуе даволі многа публікацый. Менш вядома пра Дзмітрыя Вкасілеўскага. Пасля вайны ён жыў у Даўгаўпілсе, дзе і памёр. Даследчык з Даўгаўпілса Мікола Паўловіч наладзіў сувязь з жонкай Дз.Васілеўскага, якая перадала ў музей шэраг матэрыялаў, у т.л. арыгіналы фотаздымкаў з сямейнага архіва Васілеўскіх. Ніжэй друкуем аўтабіяграфію Дз.Васілеўскага, якая дазваляе пашырыць нашыя веды аб адным з арганізатараў Браслаўскага падполля.*



Малюнак Алега Пракаповіча

Я, Василевский Дмитрий Алексеевич, русский по национальности, родился в г.Браславе Полоцкой области, где отец был местным православным священником. Во время первой империалистической войны вместе с семьёй был эвакуирован в г.Рязань, откуда вернулся в 1919 г. среднее образование получил в г.Вильно сначала в русской гимназии, а когда она была польским правительством закрыта, я был переведен в Виленскую семинарию, где преподавание велось на русском языке. Для получения аттестата зрелости требовалось закончить 9 классов (во всех других средних уч.заведениях 8 кл.), которые я и окончил получая аттестат зрелости в 1930/31 школьном году. Я намеревался поступить на медицинский факультет Виленского университета, но мне это не удалось по той причине, что поступление русских на медицинский факультет было ограничено шовинистически настроенным польским правительством (на 150 мест на первом курсе принималось только двое русских). Поступил на химический факультет на котором я и закончил весь первый курс и сдал зачет. В 1932/33 школьном году мне удается поступить на медицинский факультет, но в г.Кракове, где русский вопрос не стоял так остро как на Виленщине и где вследствие того, что русских было очень мало, можно было гораздо легче поступить на учебу, которую я там и продолжал до окончания. В 1938 г. моего отца, как русского деятеля, поляки ссылают в ссылку как политически им не выгодного. В 1938 г. я заканчиваю медицинский факультет так и начинаю практический стаж в университетских и других клиниках, где работал до начала войны. Во время польско-немецкой войны я возвращаюсь в Браслав со своей женой (тогда еще невестой). С освобождением наших земель от польского ига сразу же привожу из ссылки уцелевшего отца и работаю в гор.Браславе врачем на разных должностях до 15/IX 1940 г. когда был назначен зав.Слободским Врачебным Участком, где меня и застало немецкое вторжение на наши земли. Отступить с нашими частями я не смог, т.к. в этот период моя жена рожала (28/VI) и на бывшей советско-польской границе стояли заградительные отряды, пропускавшие только по особым пропускам. В это время мой брат и я через него получили задание от проходившего специально отряда НКВД (где были и наши районные НКВД) оставаться в тылу немцев, вести подрывную работу и организовывать партизанское движение. В это время снова подняла голову пошедшая на службу к немцам польская реакция, которая начала кроваво расправляться с оставшимися советскими людьми, особенно с не русскими. Чтобы прекратить это и помочь легче осуществлять возложенные на нас обязанности, приходиться занять административные должности, брат зам.начальника р-на, а я по назначению начальника р-на Слободского Волостного Старосты. На этой должности я находился около года и ушел с нее при помощи брата, когда с немецкой стороны мне начала создаваться угроза быть раскрытым в своей деятельности. Пользуясь этими указаниями я завладел значительным количеством оружия и боеприпасов которыми снабжал партизан. Имея контакт с партизанским отрядом я снабдил кроме этого партизан большим количеством медикаментов и перевязочных средств, а также сведениями о немецких передвижениях и концентрациях, которые мне удавалось различными путями узнавать. 15/IX 1943 г. немцы арестовывают обманным путем меня и брата, употребляя этот метод потому что рассчитывали на вооруженное сопротивление. В процессе допросов выясняется, что предал нас партизанский лейтенант по фамилии Иванов Николай, родом из Невеля. Работая в тылу у немцев брату и мне удалось сохранить наших советских военнопленных бойцов и офицеров, бежавших из немецких лагерей, приписывая их как оседлых жителей. Впоследствии из них мы начали организовывать партизанские группы и направлять в партизанский штаб, помещавшийся тогда в Бобрутах (Замошские леса). Уходящий отряд НКВД, дававший брату и мне задание сообщил также где закопано оружие и боеприпасы в Слободских казармах кроме мест обнаруженных и захваченных немцами. После немецкого С.Д. попадаю в Минскую тюрьму, а оттуда в лагерь смерти Освенцим, оттуда с приближением фронта немцы эвакуируют меня вглубь Германии в лагеря смерти сначала Бухенвальд, потом Ордруф. Брат повидимому погиб в тюрьме Глубокского С.Д. после пыток как человек слабого здоровья. Мать умерла в 1942 г., отец в 1943 г. Жену и дочь вскоре перед наступлением

# Фотаздымак нагадаў...

## *(экскурсія ў Вязынку)*

*Працяг успамінаў Ядвігі Рамаюўскай пра сваю сястру – Яніну, пляменіцу народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, якая ў перадваенны час працавала ў Браславе доктарам.*

** Удакладненне: матэрыял быў перададзены ў Браслаўскі музей з ласкавай згоды цяперашняга дырэктара літаратурнага музея Янкі Купалы Сяргея Вечара.*

**(Заканчэнне. Пачатак у №6(31)**

Яніна 22 чэрвеня 1941 г. пайшла з нашымі воінскімі часцямі абараняць Радзіму. Яна з камсамольскім білетам у руках, а камсамолкай яна была з 1932 года, і з ведамі урача лячэбніка-хірурга знаходзілася з 26 чэрвеня 1941 года ў вайсковай часці ў Полацку і Віцебску, а далей быў 25-ы палявы падвіжны шпіталь перадавой лініі, сфарміраваны 22.VI.1941 года ў Віцебску на базе Корпуснага шпіталю.

У жніўні 1941 года я з сястрой Уладзяй былі бежанкамі з Беларусі і жылі ў Новасібірску. Працавала я ў школе, сястра Уладзя інжынерам у ваеннай установе.

У скорым часе мы атрымалі вестачку ад Ніны з фронту, якая знайшла нас праз Маскву, звязаўшыся пісьмом з дзядзькам Янкам і цёцяй Уладзяй. Яна мне пісала на пачатку ваенных дзеянняў, у час адступлення нашых войск, яны былі недастаткова абмундзіраваныя. Наступалі халады. Я паспяшала па адрасу палявой пошты паслаць ёй пасылку з цёплымі рэчамі, але доўга хадзіла мая пасылка Ніне па франтавых дарогах, шукаючы адрасата, і калі пасылка Яніну Юльянаўну знайшла, яна ўжо атрымала добрае цёплае абмундзіраванне.

Даволі часта яна нам дасылала пісьмы з далёкіх франтавых дарог, нават прыслала нам свой грашовы атэстат. І калі я запярэчыла, зважаючы на тое, каб яна захавала яго сабе яна адказала мне: "Пакуль што грошы тут мне не патрэбны, я іх пасылаю Жаначцы, каб яна расла здаровенькай; мы ж тут жывём адным днём з надзеяй на перамогу над ворагам, які ў першыя дні вайны знішчыў наш дом і ўсё самае дарагое, што было ў ім, вялікую бібліятэку, рукапісы Янкі Купалы, дакументы, фатаграфіі і іншыя каштоўнасці. Раскідаў нас усіх па свеце." Будучы ў Савецкай Арміі, яна была прынята ў кандыдаты, а потым у члены КП(б).

На пачатку 1942 года ваенурач Яніна Юльянаўна Раманоўская пісала мой адрас 431 палявая почта 25 ППГ. Спачатку быў Заходні фронт перадавой лініі, затым Калінінскі, Прыбалтыйскі, Карэльскі, Стаўка ВГК, 2-гі Беларускі, Паўночная група войск. З 26 чэрвеня 1941 г. па жнівень 1941 г Ніна Юльянаўна была прызначана начальнікам санслужбы 159 кулямётнага батальёна; са жніўня 1941 года па лістапад 1941 г. ў гаўбічна-артылерыйскім палку АРТКА 22 Арміі; са снежня 1941 г. па май 1942 г. – начальнік санітарнай службы 397 асобнага зенітнага артылерыйскага дывізіёна 22 Арміі; з мая 1942 г. па кастрычнік 1944 г. – 25 хірургічны палявы падвіжны шпіталь першай лініі. Спачатку ардынатарам, а потым начальнікам хірургічнага аддзялення (22, 39 армій) групы штаба Карэльскага фронта, якая камандавала баявымі аперацыямі пярэдняга края. Была паранена. З красавіка 1945 г. па жнівень 1945 г. ардзінатар хірургічнага аддзялення шпіталя 1438. З верасня 1945 г. па лістапад 1946 г. – ардзінатар хірургічнага аддзялення Мінскага акружнога ваеннага шпіталя 432. Так пляменіца Янкі Купалы, як роўная сярод роўных, смела стала на абарону роднай Бацькаўшчыны.

Будучы на фронце Вялікай Айчыннай вайны ўзнагароджана баявым ордэнам "Красной звезды" № 377938 (приказ войскам 39 Армии № 06 от 5 января 1944 г.) і медалём "За Победу над Германией".

Пасля дэмабілізацыі з ваеннай службы Яніна выйшла замуж за вайскоўца – афіцэра Савецкай Арміі Лобышава Сяргея Аляксеевіча, беларуса з Гомельшчыны, які таксама ўсю Вялікую Айчынную вайну быў на фронце, меў узнагароды – ордэн "Красной звезды" і інш.

У 1951 годзе ў іх нарадзілася дачушка Таццяна. Радасці было, як кажуць "хоць адбаўляй". Дачка расла прыгожай разумнай дзяўчынкай, але калі Таццянцы не было яшчэ і пяці гадоў, яе маці цяжка захварэла і памерла 4 лістапада 1956 г. Пахавана ў Мінску на Вайсковых могілках, побач са стрыечнай сястрой Вацлавай і паэтам Паўлюком Трусам.

Дачушка Яніны Таццяна, цяпер ужо дарослая, выйшла замуж за аднакурсніка педінстытута Васіля Мачуйскага. У іх сям'і нарадзілася 2-е дзяцей: дачка, якой у гонар бабулі ўрача-франтавіка далі імя Ніна і сын Аляксандр. Унучка Яніны Раманоўскай пасля заканчэння сярэдняй школы пажадала стаць урачом. Паступіла ў Мінскі медыцынскі інстытут на лячэбнае аддзяленне, па заканчэнні якога працуе ў Мінску ўрачом, выйшла замуж за ваеннага Міхаіла Макоўскага, маюць дачушку Анечку – праўнучку Яніны Юльянаўны Раманоўскай. Род прадаўжаецца.

Пакуль я расказвала, ўсе з цікавасцю слухалі і не заўважылі, як ввадзіцель аўтобуса павярнуў з дарогі на Маладзечна ў Купалаўскі запаведнік "Вязынка". Мы праехалі невялікі кавалак дарогі, да якой падступаў лес, і ўжо бачна сядзіба і хата-музей, у якой 7 ліпеня 1882 года нарадзіўся Ясь Луцэвіч, Янка Купала.

Мы на стаянцы аўтамашын пакінулі наш аўтобус і па дарожцы, якая вядзе праз масток над рэчкай Вязынкай, каля вязаў над азярцом ідзем на былую сядзібу пана Станіслава Замбжыцкага, дзе Дамінік Луцэвіч з бацькам Ануфрыем, братамі і сястрой арандавалі зямлю, жыллё і пабудовы, дзе цяпер і знаходзіцца філіял Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы "Вязынка". Музей тут заснаваны ў 1945 г. Тады быў яшчэ дом Станіслава Замбжыцкага, у якім жыла яго сям'я. Яго жонка Алімпія, была хрышчонай маці маленькага Янкі Луцэвіча, хрышчоным бацькам быў муж Эміліі Ануфрыеўны Луцэвіч – Банцарэвіч. Мы прайшлі з групай урачоў і кіраўніком групы Брэус Ефрасіняй Рыгораўнай у стары сад, дзе цяпер адбываюцца ўрачыстасці святаў, прысвечаных Янку Купалу, народныя святы "Купалле".

У працэсе маёй працы ў ЛМЯнК мне давялося сустрэцца ў 1970 г. з унучкай Станіслава Замбжыцкага, якая мне многа цікавага расказала. Марыя Айова прыгадала мне, што яе дзядуля быў цікавым адукаваным чалавекам, хадзіў з палачкай, бо меў пашкоджаную хворую нагу.

На зямлі сам працаваць не мог, нават наглядаць за ёй, таму вымушаны быў зямлю і будынкі здаваць у арэнду. Такімі арандатарамі былі і Луцэвічы.

Унучка Замбжыцкага расказала, як цікава ў тыя даўнішнія часы адзначалі народнае свята "Купалле". Рыхтаваліся да гэтага свята дарослыя і дзеці. Дарослыя рыхтавалі дровы і веткі для вогнішча, дзеці збіралі кветкі, плялі вяночкі, каб упрыгожыць галаву і каб пускаць па вадзе, варожачы на шчасце. У лесе каля Вязынкі ў гэты час цвілі такія невялічкія шэра-блакітныя кветачкі, якія называліся купалінкамі. Як вечарэла, уся моладзь – хлопцы і дзяўчаты, мужчыны і жанчыны ішлі на паляну, на ёй раскладвалі вогнішча, скакалі праз агонь, многа было шуму, смеху, вадзілі харавод, пелі песні, а потым ішлі ў лес шукаць папараць-кветку і калі ўбачаць у лесе як бы агеньчык, усе падаючы бягуць туды і бачаць, што гэта ніякая папараць-кветка, а проста "чарвячок-светлячок", кавалачак спарахнеўшага дрэва, які ў цемнаце свеціцца, як агеньчык. І так праводзілі час аж да раніцы. А раніцай босыя па расе ішлі ў капусту і сціскалі качаны, каб былі крэпкія і сочныя.

Прадаўжала далей Марыя Айова: "Некалі ў нас чыгункі не было. І калі стала пытанне, што будуць пракладваць чыгунку, то дзядуля хваляваўся, каб не пашкодзілі сядзібу. Даведаліся пра гэта будаўнікі чыгункі, пачалі вымагаць з дзядулі Станіслава, каб ён ім даваў грошы, утрымлівалі іх харчаваннем, а то чыгунка пройдзе прама праз сядзібу Замбжыцкіх, праз яго дом і далей. Вядома, каб гэтага не адбылося, дзядуля даваў ім (будаўнікам чыгункі) многа харчавання. Тады чыгунку, мабыць як было і па плану, пабудавалі побач з сядзібай Замбжыцкіх, як ёсць і цяпер.

Як праклалі чыгунку, тады ў нас было больш вясёлае жыццё. Гадзіннік мы звяралі па руху цягнікоў. У нядзелю пасля снедання мы выходаілі гуляць па чыгуначнаму палатну, наогул, жыццё стала больш цікавым.

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**Валерый Каралёў**

*Славутыя земляк**і*

# Баркулаб Корсак

*Баркулаб Іванавіч Корсак – найбуйнейшы дзяржаўны дзеяч на працягу некалькіх стагоддзяў, чыё імя і дзейнасць звязаны з гісторыяй сучаснай Мёршчыны, – і вялікасць яго заслуг тут цяжка пераацаніць. На жаль, сёння незаслужана амаль забыты. А менавіта з яго павінна пачынацца галерэя вядомых, знакамітых, выдатных дзеячаў нашай мясцовасці.*

Адным з вядомых дзяржаўных дзеячаў XVI стагоддзя, імя якога цесна звязана з Дзісной, з'яўляецца Баркулаб Корсак.

Паходзіў ён са старажытнага заможнага і шматлікага баярскага роду Корсакаў. Згодна фамільнага падання заснавальнік гэтага роду яшчэ ў другой палове XIV ст. атрымаў ад князя Свідрыгайлы "*...воласці, пачаўшы ад Глыбокага аж да Завалочча ў ваяводстве Полацкім і маскоўскіх граніцах...*". Сам Баркулаб належыў да "Глыбоцкага" адгалінавання роду, пачатак якога быў закладзены Багданам Астаф'евічам Корсакавічам яшчэ ў канцы XV ст. Бацькамі Баркулаба з'яўляліся полацкі гараднічы Іван Глебавіч і Марына Гінтаўна Корсакі – "дзедзічы" маёнткаў Залессе, Псуя і Арэхаўна.

Вядома, што шэсць гадоў – з 1556 па 1561 – служыў Баркулаб Корсак падстарастам "пад рукой" старасты Магілёўскага Астафія Валовіча – выдатнага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча Вялікага княства Літоўскага, вядомага гуманіста і мецэната, дыпламата і рэфарматара. Менавіта Баркулабу Корсаку даручыў А.Валовіч, згодна каралеўскага прывілею, "асадзіць Магілёў на праве Магдэбургскім" – правесці адміністрацыйна-прававую рэформу на аснове тагачасных прагрэсіўных еўрапейскіх нормаў, а таксама прыцягнуць у ўжо вольны горад новых жыхароў.

Росквіт дзейнасці Баркулаба Корсака прыйшоўся на трагічныя і слаўныя для нашай Айчыны гады Лівонскай вайны (1558 – 1583 гг.). У 1562 годзе ён быў пасланы каралём на перамовы аб замірэнні вайсковых дзеянняў да маскоўскага цара Івана Жахлівага. Быў прыняты царом 9 сакавіка 1562 года, але на прапановы караля аб пераміры атрымаў адмову. У гэтым жа годзе Баркулаб Корсак атрымаў у пажыццёвае карыстанне ад караля і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста праваслаўны манастыр Івана Прадцечы ў Полацку.

У 1563 годзе Іван Жахлівы захапіў Полацк, учыніў у горадзе крывавую разню, а ваколіцы на адлегласці 50-ці вёрстаў за гады акупацыі ператварыў у суцэльную пустэчу. У гэты час Баркулаб Корсак меў званне каралеўскага ротмістра і камандаваў ротай з 200 вершнікаў. На чале сваёй роты ён пад камандаваннем найвышэйшага гетмана Мікалая Радзівіла ўдзельнічаў у пераможнай бітве на Вуле ля вёскі Іванск 26 студзеня 1564 года над 25-тысячным войскам маскоўскага ваяводы Пятра Шуйскага.

Гэтая вайна прынесла і асабістае гора мужнаму ротмістру. Падчас захопу Полацка маскоўскім войскам у палоне апынулася яго маці, якую з вялікімі намаганнямі і, напэўна, багатым выкупам здолеў Баркулаб вызваліць толькі ў 1566 годзе. Пасля таго як большасць маёнткаў Б.Корсака апынулася на захопленай войскамі Івана IV тэрыторыі, яму, каралеўскімі прывілеямі, была пададзена ў якасці кампенсацыі вёска Хадуцічы на Магілёўшчыне, а калі і яна была знішчана ворагам, то Баркулаб Корсак атрымаў мясцовасць Брус.

Тут, згодна аўтара Баркулабаўскай хронікі, выдатнага твору старажытнай беларускай літаратуры, у 1564 годзе "*...за ласкаю гаспадара, за вялікія і пачціўыя заслугі, за моцнае гарлаванне, за нелютаванне здароўя і нешкадаванне мясцовасці ў справе рыцарскай ваеннай, яго міласці пана Баркулаба Іванавіча Корсака, ротмістра і старасту дзісненскага на месцы глухім, на грунце лясным, ва ўрочышчы імянуемым Брус, заклікаўшы на волю і даўшы свабоды людзям прыхожым, за воляю Божай і благаславеннем людзей духоўных, заклаў замак імем сваім...*". Ля замка была закладзена царква Святога Духа, асвечаная ў 1568 г., а ў ваколіцы пачалі сяліцца "людзі прыхожыя" – хутчэй за ўсё, уцекачы ад маскоўскай няволі з усходніх земляў Вялікага княства Літоўскага. Баркулабаўская хроніка атрымала сваю назву ад закладзенага ў Брусе Баркулабам Іванавічам замка




імем сваім", паколькі была тут складзена, а самога фундатара аўтар хронікі характарызаваў як "*рыцара і воіна добрага, слаўнага*".

12 лютага 1566 г. быў складзены ліст, што пацвярджаў службу коннай роты Баркулаба Корсака, а ў сакавіку 1566 г. яна была перададзена пад каманду Рамана Сангушкі. Адправіўшы палову роты да яго з іншай паловай, Баркулаб Іванавіч у верасні таго ж года, знаходзячыся ў Дзісне, назіраў за пераходам маскоўскіх войск пад кіраўніцтвам Такматава. Тады ж кароль Жыгімонт II Аўгуст загадвае старасце дзісненскаму Баркулабу Корсаку "*...пры замку нашым Дзісненскім месца асаджваць...*", а для гараджан "*...работу астраговую рабіці і сторажу меці...*". У гэты час у Дзісне ўжо пасялілася значная колькасць уцекачоў з Полацка і яна становіцца ці не галоўным умацаваннем абарончай лініі, што ўзводзілася па загаду караля Раманам Хадкевічам і складалася з замкаў у Баркулабаве, Чашніках, Лепелі, Вароніча і Дзісне.

У 1567 г. кароль дае Дзісне прывілей і ўласны герб, але гараджане гэтым не задавальняюцца і пры падтрымцы гетмана Рыгора Хадкевіча і старасты Баркулаба Корсака просяць у караля ўласнага самакіравання, што і атрымліваюць. Разам былі нададзены новыя прывілеі і новы герб: човен – які сімвалізаваў гандлёвыя сувязі па Дзвіне. Дзякуючы такому павароту, Дзісна ў наступныя больш чым два стагоддзі будзе развівацца і квітнець. У гэты час горад фактычна становіцца ваенным, эканамічным і ў значнай ступені адміністрацыйным цэнтрам неакупіраванай часткі Полацкага ваяводства. Баркулаб Корсак атрымлівае ад караля паўнамоцтвы суддзі над полацкай шляхтай, а калі полацкі кашталян, сядзіба якога знаходзілася ў Лепелі, паскардзіўся каралю, што згодна з правам гэтыя паўнамоцтвы павінны належыць яму і просіць іх перадаць, кароль дыпламатычна адкладвае разгляд гэтага пытання да Сейма 1572 г., але і пасля гэтага староста дзісненскі працягвае выконваць функцыі суддзі.

Магчыма, у каралеўскім акружэнні прыхільнікі Корсака былі больш уплывовымі, але хутчэй за ўсё гэты чалавек сваёй мужнасцю, розумам, адданасцю і шчырасцю, якія неаднаразова былі правераны цяжкасцямі і складанасцю выконваемых даручэнняў, выклікаў большы давер і меў большы аўтарытэт у караля. У 1568 ці 1569 годзе Баркулаб Іванавіч атрымаў права самастойна камандаваць "людзьмі каралеўскімі" і ў вайсковай справе адгэтуль у ёй падпарадкоўваўся выключна гетману Рыгору Хадкевічу.

У 1579 г. Дзісненскі замак з'яўляўся цэнтрам збору войска перад пераможным паходам Стэфана Баторыя на Полацк, а сам ён так ацэньваў гэтую сітуацыю: "Замак наш Дзісненскі ёсць асобая абарона адворага нашага, князя вялікага Маскоўскага...". Быў гэты замак адным з трох умацаванняў, адкуль рушылі войскі Вялікага княства Літоўскага на вызваленне Магілёва.

Але аб усім гэтым Баркулаб Корсак ужо не даведаўся. Ён памёр 20 жніўня 1576 года ў Дзісненскім замку, а пахаваны быў у царкве Святой Прачыстай Багародзіцы ў Вільні. Меў жонку-княжну Паліну Базыльеўну Крашынскую, а дачка іх, Ева, выйшла замуж ужо па смерці бацькі.

Вайсковец, дыпламат, адміністратар, гаспадарнік, – ён, безумоўна быў чалавекам выдатным, мужным, таленавітым. Імя яго сёння носіць цэнтр сельсавета ў Быхаўскім раёне Магілёўскай вобласці – Баркалабава.

Даўно ўжо прыспеў час увекавечыць яго імя і ў Дзісне – назвай вуліцы, мемарыяльным знакам ці дошкай.

## Гартаючы старыя газеты

***Відзы. З мусульманскага прыходу.***

*5 верасня 1930 г. у Відзах адбыўся агульны сход мусульманскага насельніцтва, мэтай якога было стварэнне мясцовага аддзелу культурна-асветніцкага саюзу татараў Рэчы Паспалітай. Сход пачаў Алі Барановіч, студэнт універсітэта Яна Казіміра ў Львове, абраны старшынёй сходу. Пасля таго, як былі заслуханы грунтоўны даклад Барановіча, прысвечаны дзейнасці Саюзу, было абрана праўленне мясцовай арганізацыі. У склад праўлення ўвайшлі: Аляксандр Якубоўскі (старшыня), Ібрагім Якубоўскі (сакратар), Мустафа Гембіцкі (скарбнік), Амурал Патражыцкі (сябра). Была абрана таксама рэвізійная камісія ў складзе: Якуба Якубоўскага, Мустафы Якубоўскага, Мустафы Асановіча, Якуба Александровіча, Аляксандра Якубоўскага. У сябры мясцовага аддзела запісаліся 45 чалавек. Гэта дае магчымасць пачаць працу ... Відзскі мусульманскі прыход увогуле налічвае больш за 350 чалавек, пражываючых на тэрыторыі Браслаўскага, Свянцянскага і часткова Дзісенскага паветаў ...*

Kurjer Wileński. 1930. 17 верасня

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)